


# ЧОРНЫЯ СПРАВЫ „БЕЛАГА ВОІНСТВА“

Нядаўна ў будынку англійскага пасольства на шумнай зялёнай вуліцы, што непадалёк ад цэнтра панамскай сталіцы, зазваніў тэлефон. Невядомы прыгразіў выкрасці пасла. Не паспелі журналісты перадаць у газеты сенсацыю, як панамская паліцыя ўстанавіла арганізацыю, членам якой быў невядомы. Гэта, як высветлілася, гватэмальская тэрарыстычная банда „Мана бланка“.

Задача паліцыі аблягчалася тым, што „Мана бланка“ („Белая рука“) адкрыта ажыццяўляе свае тэрарыстычныя акцыі, бо дзейнічае па ўказцы гватэмальскіх улад. Як указвае панамская газета „Матуціна“, гэта ультраправая фашысцкая групоўка забівае рабочых і сялянскіх лідэраў, тэрарызуе прадстаўнікоў прагрэсіўнай інтэлігенцыі Гватэмалы. Ад рук узброеных бандытаў з „Мана бланка“ толькі ў мінулым годзе па палітычных матывах было забіта больш як 800 гватэмальцаў.

Беспакарана дзейнічаючы ва ўласнай краіне, „Мана бланка“ актывізавала таксама падрыўную работу ў цэнтральнаамерыканскіх краінах, якія змагаюцца за нацыянальную незалежнасць, ліквідацыю сацыяльна-эканамічнай адсталасці. Гэта групоўка, у прыватнасці, робіць спробы дэстабілізаваць становішча ў Коста-Рыка і Панаме. Пагрозы ў адрас брытанскага пасла, адзначае панамская газета „Крытыка“, — гэта не што іншае, як спроба абвастрыць становішча ў Панаме, падарваць пазіцыі панамскага ўрада ў яго барацьбе супраць амерыканскага імперыялізму.

У апошні час у радзе цэнтральнаамерыканскіх краін актывізавалі сваю дзейнасць таксама мясцовыя тэрарыстычныя арганізацыі тыпу гватэмальскай „Мана бланка“. Паведамленні, якія паступаюць з Нікарагуа, Сальвадора, сведчаць аб тым, што ахвярамі палітычнага тэрору становяцца ўсё новыя прагрэсіўныя лідэры, прадстаўнікі інтэлігенцыі, журналісты. Дыктатарскія рэжымы гэтых краін выкарыстоўваюць тэрарыстычныя групоўкі для ўмацавання сваёй улады, для расправы з дэмакратычнымі сіламі.

Прыкладам можа служыць невялікая дзяржава Сальвадор з насельніцтвам 4,5 мільёна чалавек. У эканоміцы Сальвадора, якая грунтуецца на кофе, цукру, бавоўне і бананах, гаспадараць 14 буйных латыфундыстаў. Больш чым палавіна сялянскага насельніцтва пакутуе ад хранічнага беспрацоўя. На справядлівыя выступленні сялянскіх мас урад адказвае жорсткімі рэпрэсіямі, арыштамі, забойствамі.

Сальвадорскія ўлады шырока выкарыстоўваюць у карных мэтах розныя тэрарыстычныя банды, якія аплачваюцца буйнымі памешчыкамі.

Так, ультраправая тэрарыстычная арганізацыя „Уньён герэра бланка“ трымае ў пастаянным страху сялянскае насельніцтва цэлых раёнаў. Гэта групоўка, назва якой перакладаецца як „Саюз белага воінства“, распраўляецца з сялянскімі кіраўнікамі, адбірае ў сялян зямлю.

У Нікарагуа і Гватэмале тэрарызм па палітычных матывах даўно стаў нормай жыцця. Колькасць забітых вылічваецца многімі сотнямі. Кожнае сялянскае або рабочае выступленне афіцыйная прапаганда гэтых краін характарызуе як „падкопы левых элементаў“ і ледзь не як „умяшанне Гаваны“ ва ўнутраныя справы. Аднак добра вядома, што сапраўдныя прычыны незадаволенасці народных мас выкліканы глыбокай сацыяльна-эканамічнай няроўнасцю ў гэтых краінах.

У Нікарагуа, напрыклад, сям'я прэзідэнта Анастасіо Самосы вось ужо 50 гадоў кантралюе палітычнае і эканамічнае жыццё краіны. Як з сумам зазначыў дырэктар адной апазіцыйнай газеты, „Самоса валодае ўсім, што ёсць у Нікарагуа. Адзіным выключэннем з'яўляецца паветра, якім мы дыхаем“.

У Гватэмале, краіне лясоў і азёр, асноўная частка трохмільённага індзейскага насельніцтва жыве ва ўмовах такой жа адсталасці, як і пяць стагоддзяў назад.

**А. Т.**

## Наша галерэя



*Оля Блацевіч. „Дары“. Аплікацыя насеннем. Фота В. Казлова.*

**ЛІТАРАТУРНЫ ПАЛЕТАК**

# КАБ ЗАЎСЁДЫ БЫЛА ЧАЛАВЕЧНАСЦЬ

Любоўю да Айчыны-Беларусі, да свайго народа, верай у чалавечнасць, у перамогу міралюбівых гуманістычных ідэй насычаны ўсе творы Уладзіміра Караткевіча, вядомага беларускага паэта і празаіка сярэдняга пакалення (нар. ў 1930 годзе).

Пераканаліся аб гэтым паклоннікі музы Ул. Караткевіча 22 кастрычніка г.г. на сустрэчы з паэтам у памяшканні БГКТ у Варшаве. Прыбыў ён са сваім добрым сябрам Ф. Неуважным, па запрашэнню якога знаходзіцца ў Польшчы. Др Ф. Неуважны, кіраўнік кафедры ўкраінскай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Ул. Караткевіч разам вучыліся на Кіеўскім універсітэце і да сёння ўтрымліваюць дружалюбныя кантакты.

Вечар пачаўся ад пытанняў і адказаў. Пісьменніка пыталіся, над чым ён цяпер працуе, калі паявіцца працяг яго цікавай аповесці. „Каласы пад сярпом тваім“. Было нават пытанне аб мядзведзі, які калісьці пасяліўся на кватэры Караткевіча.

Аўтар „Каласоў“ адказваў, што дванаццаць гадоў працаваў над зборам матэрыялаў і вывучэннем эпохі Студзеньскага паўстання. Цяпер працуе над трыма кнігамі „Каласоў“, у якіх заключаюцца самыя галоўныя падзеі — разгар паўстання і эпілог — яго падзенне.

Маючы заўсёды „жартаў поўныя кішэні“, як сцвярджае ў адным з вершаў, Караткевіч пачаў расказваць анекдоты, гумарыстычныя гісторыі, ствараючы вясёлы настрой сярод сваіх слухачоў. Адказваючы на пытанне аб мядзведзі, які жыў на яго кватэры, прыпомніў камічнае здарэнне. Выкупаў я яго — кажа Караткевіч — у ванне, мядзведзь выйшаў у пярэднюю, дзе ў вялікім люстры ўгледзеў свой адбітак. Мядзведзь прыглядаўся сабе хвіліну, потым грымнуў з усяе сілы лапай і люстра рассыпалася на кавалачкі. Адгэтуль было ў мяне толькі маленечкае люстэрка да брыцця, каб не гнявіць чатырохножнага кватаранта.

Уладзімір Караткевіч адказваў на пытанні і адначасова сам запытваў прысутных: Хто з вас начаваў на Вежы Марыяцкай у Кракаве? Не пачуўшы адказу — сцвердзіў: а я начаваў. І расказаў, як пазнаёміўся з трубачамі, людзьмі з высокай культурай, з вышэйшай музычнай адукацыяй.

Паэт у вялікім захапленні Польшчай, Кракавам, Варшавай, Старым Мястам.

З першай, утрыманай у жартоўна-гумарыстычнай танацыі, часткі, паэт перайшоў да другой — лірычна-настраёвай — чытання вершаў з паэтычных зборнікаў „Матчына душа“, „Вячэрнія ветразі“ і „Мая Іліяда“.

Схухачы ўжо не здзіўляліся, што на кватэры паэта мог пасяліцца мядзведзь, калі пачулі радкі верша:

*Закаханы ў жыццё і ў кожную мушку*
*Я іду каля хат і росных садоў.*
*І са мной размаўляюць звяры і птушкі*
*На дзесятках і тысячах розных моў.*
*(Верш: „Як размаўляюць звяры і птушкі“)*

Заўсёды ўлюбёны ў сваю Маці-Беларусь знайшоўшыся за яе межамі паэт пісаў:

*Я сумую па радзіме,*
*Як каханы па дзяўчыне.*
*Я жадаю ўвесь прыпасці*
*Проста да яе рукі,*
*Да грудзей — тугіх узгоркаў,*
*Да вачэй — азёраў сініх,*
*І замерці ў пацалунку*
*На гадзіны і вякі.*
*(Верш: „Мокрыя травы“)*

Любоў да радзімы, да працавітага беларускага народа, паэт выражае і ў іншых вершах:

*Кроў далі мне паплавы і пожні*
*Голас — бор дрымучы і чарот!*
*Я з табою да крыві апошняй*
*Мужны мой, адвечны мой народ!*
*(Паэма: „Бацькава сэрца“")*

Паэт перасцерагае тых, хто выракаецца свайго роднага:

*Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе,*
*Хто забыў сваю мову — усё згубіў.*
*(Паэма „Слова пра чалавечнасць“)*

Уладзімір Караткевіч, узяўшы ў рукі прыгожа афармлены мастаком В. Басалыгай паэтычны зборнік „Мая Іліяда“, сказаў: чым горшыя вершы піша паэт, тым прыгажэй выдаюць яго кніжкі. Запярэчаннем яго слоў быў ужо першы прачытаны верш „Беларуская песня“, з узнёслым вызнаннем аўтара:

*Дзе мой край? Там дзе вечную песню пяе Белавежа...*
*Там звіняць неўміручыя песні на поўныя грудзі,*
*Там спрадвеку гучыць мая мова, булатны клінок.*
*Тая гордая мова, якую й тады не забудзем*
*Калі сонца з зямлёю ў апошні заглыбяцца змрок.*

На заканчэнне прысутныя пачулі радкі прысягі паэта перад Маці-Радзімай:

*Беларусь мая, ты адзіная*
*Перад кім на каленях стаю:*
*Мне слузе твайму, цяжка загінуць,*
*Лёгка-жыць у славу тваю.*
*(Верш „Маленне аб чашы“)*

Жыві ж, працуй, мілы дружа, ўвасхрашай слаўнае мінулае і апявай працавіты сённяшні дзень сваёй Радзімы-Беларусі!

**Віктар Швед**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Белагорцы ● Цудоўна! Просім часцей! ● Янка Брыль — пісьменнік — чалавек ● Радасці і праблемы школы ў Малінніках ● Літаратурны палетак ● На развалінах Бельска ● У беластоцкіх самадзейнікаў ● Весткі з Сушчы, Белавежы, Чаромхі, Навасадаў, Нараўкі, Дубіч Царкоўных, Шудзялава ● Як даглядаць бровы ● Беларуская мода ● Чаму задрыпанец сумны ● Песня „Арлекино“.**




**Sobota 10 XII** — 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. (27). 7.00 Mech. rol. (29). 7.20 Natura czyni cuda — komedia czech. 10.00 Dla kl. VII. Zool. 11.05 Dla kl. VIII Geogr. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. (11). 13.25 Hod. zwierz. (11). 14.55 Red. szk. zap. 15.05 Pr. dnia. 15.10 Radzimy rolnikom. 15.20 Obiektyw. 15.40 Dziennik. 15.50 Dla najmłodszych. 16.20 Sport. 17.00 Stary człowiek i morze — fab. film USA. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Morderstwo czy małżeństwo — ang. film krym. 22.00 Dziennik. 22.15 Benefis — radz. pr. rozr. 23.35 Sport. 24.00 Milcz bo zginiesz — odc. am. ser. sens. Kojak.

**Niedziela 11 XII** — 7.00 Tech. Rol. Upr. rośl. (11). 7.30 Hod. zwierz. (11). 8.00 RTV szk. śred. Nasze spotkania. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Tropami mitów. 11.25 Dziennik. 11.40 Rolnicze rozmowy. 12.20 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 12 XII** — 12.45 RTV szk. śred. Fiz. (32). 13.25 RTV szk. śred. Wskaz. met. (24). 15.25 NURT — nauki polit. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zbliżenie. 17.00 Zwierzyniec. 18.00 Stawka większa niż życie — odc. XV ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. M. Roszczin „Małżeństwo szuka pokoju". 22.00 Camerata. 22.30 Drogi przyjaźni. 22.45 Dziennik.

**Wtorek 13 XII** — 6.30 RTV szk. śred. Fiz. (31). 7.00 Wskaz. met. (24). 9.00 Dla kl. V. J. pol. 10.00 Dla kl. I—III Czerwone, żółte, ziel. 12.00 Dla kl. VIII Hist. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. (12). 13.25 Fiz. (7). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motor. 17.45 Interstudio. 18.25 W Starym Kinie. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Droga przez mękę — odc. 7 ser. 21.50 Świadkowie. 22.10 Śpiewa Farah Maria. 22.40 Dziennik.

**Środa 14 XII** — 6.30 RTV szk. śred. J. pol. (12). 7.00 Fiz. (7). 9.00 Dla kl. VII Chem. 10.00 Fiz. 11.05 Dla kl. VIII. Fiz. 12.00 Dla kl. VII—VIII Wych. muz. 12.45 RTV szk. śred. Mat. (42). 13.25 Biolog. 15.25 NURT — naucz. począt. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Przed ekranem. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Zgadnij kim jestem — teletur. 18.35 Świat, który nie może zaginąć. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Thanasis chwyć za broń — fab. film grec. 21.55 Koncert. 23.00 Dziennik.

**Czwartek 15 XII** — 6.30 RTV szk. śred. Mat. (42). 7.00 Biol. (36). 10.00 kla. VI. Hist. 11.05 Dla kl. III lic. J. pol. 12.00 Dla kl. VIII J. pol. 12.45 RTV szk. śred. Mat. (12). 13.25 Biol. (10). 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Taaka ryba. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Zabójstwo — fab. film am. 22.00 Pegaz. 22.45 Dziennik.

**Piątek 16 XII** — 6.30 RTV szk. śred. Mat. (12). 7.00 Biol. 9.00 Dla kl. V Geogr. 10.00 Dla kl. VI Szlakiem Łukaszewicza. 11.05 Dla kl. I—III lic. Wych. tech. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. (35). 13.25 Hod. zwierz. (34). 15.25 NURT — psych. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Ula z I B — widowisko dla dzieci. 17.00 Poradnik zmotor. tur. 17.40 Kamo — ostatnia misja — fab. film radz. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Gwiazdy patrzą na nas — odc. IX ser. ang. 21.30 Sport. 22.30 Dziennik. 22.45 Studio Teatralne. F. X. Kroetz „Podróż do szczęścia".




**Piątek 9 XII** — 7.30 Koncert. 7.55 Film fab. 15.15 Pr. rozr. 17.30 Hokej. CSKA — „Poldi" (Czech.). 20.05 Międzynar. zaw. w j. fig. na lodzie.

**Sobota 10 XII** — 9.50 Koncert. 13.05 Film fab. 15.25 Piosenki A. Pachmutowej. 16.15 Nie do wiary. 17.15. Międzynar. zaw. w j. fig. na lodzie. 19.30. Film dok. 20.30 Pr. estrad.

**Niedziela 11 XII** — 12.45 Panorama międzynar. 13.15 Międzynar. zaw. w j. fig. na lodzie. 14.05 Klub film. 15.05 Film anim. 16.00 Międzynar. zaw. w j. fig. na lodzie. 19.30 Film dok. 20.30 Pr. muz.




**Białowieża** Alicja już tu nie mieszka — USA 13—14. Stara strzelba — fr. 15—16. Piętro wyżej — pol. 17—18.

**Bielsk Podlaski** Uśmiech — USA 13—14. Fałszywy król — ang. 15—16. Barwy mojej młodości — jap. 17—18.

**Czeremcha** Nie oglądaj się teraz — ang. 13—14. Ocalić miasto — pol. 17—18.

**Czyże** Dziewczyna do dziecka — wł. Mgła — pol. 14—18.

**Dubicze Cerkiewne** Cudze listy — radz. Stróż plaży w sezonie zimowym — jug. 14—18.

**Gródek** Alicja już tu nie mieszka — USA 17—18.

**Hajnówka** Pocałunki z Honkongu — fr. 12. Wyprawa po złoto — radz. 13—14. Kariera na zlecenie — fr. 15—16. Syndykat — USA 17—18.

**Michałowo** Eliksir młodości — rum. 13—14. Maria — szwedz. 15—16. Moja wojna, moja miłość — pol. 17—18.

**Milejczyce** Nieproszeni goście — radz. 13—14. Rewolwer Python — fr. 15—16. Dziewięć miesięcy — węg. 17—18.

**Narew** Podróż Sindbada do złotej krainy — ang. Wielki układ — pol. 14—18.

**Narewka** Colargol na Dzikim Zachodzie — pol. Zaklęte rewiry — pol. 14—18.

**Nurzec** Kraksa — wł-fr. 13—14. Nasz nowy braciszek — NRD 15—16. Pani Bovary — to ja — pol. 17—18.

**Orla** Policjanci — USA. Wiosna panie sierżancie — pol. 14—18.

**Rajsk** Karino — pol. 14—18.

B.Z.Graf. Zam. nr 2762 B-4

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. ЛЯЧЭННЕ**




Крыніца народнага лячэння знаходзіцца ў глыбокай мінуўшчыне. Першыя спосабы лячэння паявіліся разам з свядомасцю першабытнага чалавека. Былі гэта спробы абеспячэння яго быту і зводзіліся пераважна да магічных рухаў ці дзеянняў, сланых да розных з'яў прыроды, якія лічыліся багамі. Разам з развіццём людской свядомасці, у народным лячэнні паявіліся розныя гатункі зёлаў, пастаянныя (да кожнай хваробы іншыя) славесныя тэксты, малітвы, выпрацаваныя ўзоры магічнага дзеяння. Пераказвалася гэта з пакалення на пакаленне. З бегам часу пачалі ў паасобных мясцовасцях паяўляцца народныя лекары, якія трымалі ўсе гэтыя формулы ў цвёрдай таямніцы, як аснову свайго быту. А спрыяў гэтаму нізкі ўзровень тагачаснай навуковай медыцыны. І такім чынам лячэннем хвароб займаліся шматлікія знахары, якія часта не мелі нічога супольнага з народным лячэннем.

Найчасцей лячэннем займаліся жанчыны. Яны зналі лячэбныя ўласцівасці зёл, яны ўмелі варыць мазі, яны скідалі ўрок, пазбаўлялі плоду, лячылі хатнюю жывёлу, лагодзілі хатнія непаразуменні.

Бытавала ў народзе перакананне, што хвароба з'яўляецца ні чым іншым, як пасяленнем у чалавечым арганізме „злога духа", або вынікам шкодніцка-магічнага дзеяння. І вылячыць чалавека — гэта прагнаць „злога духа". Прабавалі выганяць яго рознымі спосабамі. Залежала гэта ад хваробы. Можна было: закапаць або перанесці яго на другога чалавека (пры лячэнні бародавак), закляць — пры пазбыванні лішая, спаліць — пры рожы, адкінуць за сябе — пры безупынным плачу дзіцяці, ці выплюнуць — пры зніманні ўроку.

Па сённяшні дзень бытуе яшчэ на Беласточчыне многа цэнтраў народнага лячэння. Найбольш аднак засталося месц лячэння хвароб нервовай сістэмы. Пры запісванні формулы лячэння напатыкаюцца вялікія цяжкасці: надалей яно застаецца таямніцай. У 1975 годзе ў Нарве ўдалося нам запісаць спосаб здымання „пэрэполоху". Бярэцца для гэтага рэшата, пераварочваецца яго дагары дном і перасяваецца попел. Дзейнасць паўтараецца тры разы. Пры гэтым гаворыцца наступны тэкст:

— (імя), што робіш?

— Сею пэрэполохі!

— Сей, сей, жэб іх нэ было!

Ужо з гэтага вынікае, што пры адчыняннi павінна быць дзве асобы, якія вядуць паміж сабой гэты дыялог.

Наступны спосаб, шырока распаўсюджаны, быў запісаны ў ваколіцы Заблудава. Гэта „одкаджуване" хворага свянцонымі ў першую нядзелю пасля „Зэленця" вяночкамі. Хворага распраналі да гала, акрывалі плахтаю, коўдрай або фартухом, наказваючы расставіць ногі. На бляшанай шуфельцы, ці нейкай іншай пасудзіне, клалі распаленае вуголле, на якое кідалі свянцоныя вяночкі і поўсць звера або валасы чалавека, таго, што быў прычынай „пэрэполоху". Усё гэта ўсоўвалася пад плахту, якой быў накрыты хворы. „Каджоны" мусіў пры гэтым адмаўляць малітвы, найчасцей: „Багародзіцу", або „Ойча наш". Выразнае змяшанне двух рэлігійных культур — язычаскай і хрысціянскай.

У Райску (запісана ў 1974 годзе) спатыкаецца зусім іншы спосаб. Галаву хворага прыкрывалі чырвоным палатном і спальвалі над ім тры ільняныя галачкі. Раней аднак хвораму падавалі ваду, якую той праз увесь час адчынення мусіў трымаць у роце. Пасля спалення гэтых галак знімалі з галавы палатно і толькі тады, перахрысціўшыся, хворы мог праглынуць гэтую ваду. Потым тры разы адкашліваў, сімвалізуючы „выкіданне" з сваёй сярэдзіны хваробы. Прадаўжэннем гэтага лячэння з'яўляецца з'яданне хлеба, які дае знахарка ў трох кусочках. Прыйшоўшы дахаты, вечарам, хворы ставіў правую нагу на парог, адмаўляў тры разы „Багародзіцу" і з'ядаў адзін кусочак хлеба (той, ад якога казала знахарка пачынаць). Дзейнасць гэтую паўтараў яшчэ раней і вечарам наступнага дня.

Гэтыя, надта цікавыя і каларыстычныя, спосабы лячэння сталіся ўжо сёння тэатральнымі жэстамі. „Сіла вышэйшая" — гэта была тая сіла, якой чалавек баяўся і якую шанаваў. Ён верыў, што можа яна і дапамагчы, і пакараць. І магія часта хутчэй перамагала хваробу, чым розныя антыбіётыкі, бо чалавек безгранічна верыў у яе сілу, уводзіўшы гэтым свой арганізм у свет псіхічнага добрага самаадчування.

„Найновшы лекаж домовы", выданы ў Варшаве ў дваццатых гадах гэтага стагоддзя, паведамляе: „Калі чалавек моцна перапалохаецца, трэба абавязкова хутка аддаць мачу. Гэта стары, выпрактыкаваны спосаб, які амаль заўжды памагае". Тут выступае сувязь з запісаным намі спосабам спальвання ільняных галак, глытаннем вады. Вада — ачышчаючы сродак — не страціла ў народным верапераканнi сваёй сілы.

**Янка Леанчук**
**Міхась Шаховіч**

**ГАРАДСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ**



*Новыя дамы ў цэнтры Беластока.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

**ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА**

## ПАЗАЛОЧАНАЯ БЯДА

Паслала мяне Палашка ў горад. — Едзь, — кажа, — дзяцей наведаеш і свежыны ім крыху завязеш, бо чула, што цяпер там труднавата з гэтым, у чаргах прыходзіцца стаяць.

У вагоне выпала сядзець мне побач маладзенькай панюсі, якая безупынку трайкатала з другой, крыху старэйшай, што сядзела насупраць нас. Па-няволі, прыйшлося слухаць. Неўзабаве я даведаўся пра ўсе тайны яе жыцця. Яна па прафесіі інжынер, працуе ў вельмі важнай установе, некалькі разоў у год выязджае за мяжу.

— У Саюз я цяпер ужо не езджу, — гаварыла яна сваёй сяброўцы. — Залатых кольцаў не прапускаюць і купіць іх не так лёгка.

— Ды і ў нас невядома, што з імі рабіць, — заявіла суседка. — Бо на кірмашу ў Беластоку залатыя вырабы страх прадаваць, так міліцыя за імі ганяецца... Усё канфіскуе...

— Эээ, з гэтым няма бяды! — рашуча заявіла малодшая. — Я ведаю інжынера, які ў арабаў нешта будуе, то яго жонка ўсё гуртам бярэ і яшчэ доларамі плаціць.

— Што цяпер варты нашы грошы, — уздыхнула старэйшая.

— Месячнай зарплаты нават на тры тыдні не хапае, — узмахнула рукамі малодшая, падсунуўшы мне пальцы пад самы нос. А на гэтых пальцах... божа мой... і рубіны, і янтар... Больш кольцаў і пярсцёнкаў чым пальцаў...

Паглядзеў я ёй у вочы і цяжка ўздыхнуў.

— Ці вы да лекара? — пацікавілася мая малодшая суседка. — Што, хіба сэрца баліць? Я ведаю аднаго спецыяліста. Толькі 500 злотых за візіт.

Ой, баліць маё сэрца, ды яшчэ як баліць! Гэта хацелася мне сказаць. А баліць яно перш за ўсё таму, што зямля наша носіць такіх пустагаловых паразітаў, як ты, мая суседка. Наракаеш на цяжкасці жыцця, свецячы людзям у вочы золатам. Адкуль жа яно ўзялося, калі табе зарплаты да канца месяца не хапае? Ды як жа можа хапаць гэтай зарплаты, калі ты вышэй жыцця цэніш бляск золата. Хто цябе вывучыў на інжынера? Хто табе даў працу?

Хацеў я пра гэта запытаць у яе, але падумаў, што яна і так скажа: дурны мужык і годзе... Зрэшты, яна зноў звярнулася да сваёй субяседніцы, даказваючы, што цяпер найлепш ехаць у Будапешт, а яшчэ лепш — у Турцыю.

— Адна мая знаёмая за адзін раз аж дзесяць ланцужкоў залатых прывалакла.

Надаелі мне гэтыя кольцы і ланцужкі. Я прытуліўся да сцяны і задрамаў.

— Вы маё футра знішчыце! — пачуў я праз сон голас гэтай пані. Аблакаціўся, быццам на свой кажух, і спіць рот разявіўшы!.

Выйшаў я ў калідор. Паявіліся агні горада. Зяць на сваёй машыне завёз мяне да сябе. Дачка нарыхтавала ўрачыстую вячэру.

— Каб татка нам не прывёз, — пачала дачка, — дык і пачаставаць вас не было б чым добрым, бо за працай няма часу ў чаргах стаяць.

— Дзеці мае міленькія! — не стрымаў я. — Чаго ж вы наракаеце? Стол у вас аж гнецца ад усялякага дабра, у кутку тэлевізар, на кухні халадзільнік, у шафе адны крышталы! Бяды вы яшчэ ў сваім жыцці не сустрэлі. Гэтай сапраўднай бяды!

— Тата зараз пачне нам расказваць пра вайну і як жылося зараз пасля вайны, — насмешліва адазвалася дачка. — У школе нас яшчэ і аб паншчыне вучылі.

Я моўчкі праглынуў крыўду. „Гэта нашы, вясковыя, дзеці?" — падумаў.

На другі дзень я засумаваў за сваімі бычкамі і свінкамі. Бо што рабіць у горадзе? Людзей тут поўна, а ўсе чужыя.

На трэці дзень раненька, нічога не кажучы сваім дзецям, выбраўся я ў мясны магазін. Магазін яшчэ быў закрыты, але ўжо стаялі там старэйшыя бабы.

— Вы для каго сёння купляеце? — пацікавілася адна з іх.

— Для сябе, для дзяцей сваіх, — гавару ёй.

— А зарабіць не хацелі б?

— Як зарабіць? — пытаю.

— Звычайна. Пастаяць у чарзе, купіць, што трэба, і занесці нейкаму доктару, дырэктару, ці адвакату. Хочаце, у мяне ёсць адрасы.

Найперш падумаў я, што яна дурня хоча з мяне зрабіць, але пазней выявілася, што старая ведзьма ані крыху не жартавала. Неўзабаве прыйшлі на „працу" яе сяброўкі і я астаўся далёка на канцы чаргі. Прыйшлося вяртацца дамоў з пустымі рукамі. Хай іх чэрці возьмуць! Пад вечар я і ўцёк з горада.

**Максім Нурэцкі**



## ХРОНІКА

У памяшканні БГКТ у Варшаве 16 лістапада г.г. адбыўся вечар, прысвечаны 65-ай гадавіне з дня нараджэння народнага паэта БССР, старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Максіма Танка. Са змястоўным дакладам аб жыццёвым і творчым шляху паэта выступіў др А. Баршчэўскі.

Варшаўскі клуб БГКТ 23 лістапада наладзіў другі літаратурны вечар маладой беларускай паэтэсы — Надзеі Артымовіч, якая родам з вёскі Аўгустова пад Бельскам, а пастаянна жыве і працуе ў Варшаве.

У шчыльна запоўненай зале, пад музыку Шапэна, пры мігатлівым святле свечак больш гадзіны часу гучэлі яе вершы. Вечар пацвердзіў сапраўдны і самабытны талент нашай зямлячкі.

Падобная сустрэча адбылася ў варшаўскім клубе 12 лістапада з беластоцкімі паэтамі — Я. Леанчуком і М. Шаховічам.

*На здымку: Надзея Артымовіч і Юрка Туронак, які ў асноўным і падрыхтаваў гэты вечар.* (вр)

(Працяг са стар. 1)

## НАША ПЕСНЯ

жанчыны моцна трымаюцца ў калектыве, ахвотна прыходзяць на пробы і едуць усюды, дзе іх просяць.

У клубе гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку вельмі часта можна сустрэць Уладзіміра Навіцкага. Гэта ўжо пенсіянер, але гаворыць аб моладзі.

— Тут, у гэтым клубе, заўсёды поўна моладзі. Маладыя жыхары Беластока вельмі горнуцца да нас. Калі адбываецца чарговае пасяджэнне праўлення гуртка, мы заўсёды прымаем у рады БГКТ 20-30 новых членаў. Цяпер беластоцкі гурток БГКТ налічвае ўжо каля 800 членаў.

Тут дзейнічае калектыў „Каласкі". Валя Шуста, мастацкая душа гэтага калектыва, гаворыць;

— Былі мы на дажынках у Нарве, у Орлі і Міклашах, выбіраемся на Сакольшчыну, выступалі ў Беластоку. Ставім п'есу „Бацькоўскае благаславенне", у якой я зноў граю ролю бабулі.

*

Гэты няпоўны рэпарцёрскі агляд можна было б закончыць вывадам, што рахунак адной толькі мастацкай аматарскай дзейнасці БГКТ выпадае даволі багата і Таварыства можа ганарыцца сваімі дасягненнямі.

**Віктар Рудчык**

 

# У ЛУЖАНАХ

(Працяг са стар. 1)

**жэй** і дзесяткаў іншых, пра якіх загадчык усёй лужанскай механізацыі **Рамуальд Дужэй** кажа:

— Гэта людзі ахвярныя і з залатымі рукамі. Гэта ж яны, механізатары, сёлета засеялі, вырасцілі і даставілі на дзяржаўны пункт скупкі 1022 тоны жыта, 77 т ячменю, 92 т аўса, 82 т рапаку — усяго на 6 мільёнаў 224 тысячы злотых. А ўраджай, як на тутэйшыя пяскі, быў нядрэнны: 21,1 цэнтнера збожжа з гектара. Аднак не думайце, што ўсё ў нас так гладка ідзе. Несамавітыя цяжкасці маем з запаснымі часткамі да машын, на кожныя 100 заказаных намі атрымоўваем усяго 30. Не хапае нам і кадраў. Вось і цяпер трэба найменш 10 трактарыстаў і ўзяць іх няма адкуль. На шчасце ў Баброўніках маем пабудаваныя жылыя карпусы з 32 сучаснымі кватэрамі. Спадзяемся, што гэта заахвоціць маладых да працы ў нас.

Але і ў кадрах наступаюць у Лужанах прыкметныя змены. Тры месяцы таму назад тут прыступіла да працы пара заатэхнікаў **Дарота і Анджэй Кальгорны.** Абое яны радавітыя варшавяне, абсальвенты Сельскагаспадарчай акадэміі СГГВ. Маладыя спецыялісты ўжо акліматызаваліся ў Лужанах, пазнаёміліся з усімі вялікімі і малымі справамі жыцця кааператыва і з захапленнем гавораць аб сённяшнім і заўтрашнім дні жывёлагадоўлі ў ім.

— Наш статак складаецца з 283 штук быдла, у тым 102 дойныя каровы, а мы зробім усё, каб за некалькі год у нас было сама меней 400 штук быдла, — кажа мгр інж. **Дарота Кальгорн.** — Асабліва паклапоцімся пра дойныя каровы, бо яны даюць найбольшы даход.

— Я не хачу памяншаць ролі быдла ў нашай гаспадарцы — заўважае мгр інж. **Анджэй Кальгорн,** — але значна шырэйшыя перспектывы паўстаюць у нас перад гадоўляй авечак. Цяпер у нашым гурце звыш 1200 штук авечак. Было б іх болей, але Беластоцкае прадпрыемства ПБРоль страшэнна зацягнула пабудову фермы на 1500 штук авечак у Баброўніках. Спадзяемся, што ў 1979 г. у нас будзе каля 6500 штук авечак.

З гадоўлі за мінулыя тры кварталы прыбыло кааператыву звыш 5 мільёнаў злотых, а за ўвесь год гэтая сума дойдзе да звыш 8,5 млн. злотых.

Не забыліся ў Лужанах і пра гадоўлю курэй на мяса. Заатэхнік Надзея Дужэй расказвае, што ў старэнькім, сяк-так прыстасаваным да гадоўлі, будынку кожны год адкормліваецца 60 тысяч штук бройлераў! У мінулым годзе бройлерня дала кааператыву 400 тысяч злотых даходу.

Пра жывёлагадоўлю дбаюць у Лужанах. Нядаўна закончыліся працы пры закладцы коштам 4,5 мільёна злотых 250 га спецыяльнага пасвіска.



*Маладыя спецыялісты-заатэхнікі Анджэй і Дарота Кальгорны.*



*Галоўны бухгалтар кааператыва ў Лужанах Раіса Бублей.*

У сціртах, абарогах і сіласах у бягучым годзе лужане назапасілі звыш 6 тысяч тон квашанкі з розных раслін і каля 600 тон сена а таксама шмат іншых кармоў.

— А ці ведаеце, што ўсё гэта — вынік працы сямідзесяці чалавек, — не без гонару заўважае галоўны бухгалтар кааператыва **Раіса Бублей.** — Ніхто іншы, а толькі яны ў мінулым годзе выпрацавалі 3 мільёны 344 тысячы злотых даходу, а ў бягучым годзе гэтая сума напэўна перавысіць 4 мільёны злотых.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## Весткі з Беластока

### „ЗАХЭНТА“ МАЕ ПЯЦЬ СВЯТЛІЦ

Жыллёвы кааператыў „Захэнта“ многа ўвагі ўдзяляе павелічэнню памяшканняў да вядзення грамадска-выхаваўчай і культурна-асветнай працы. У канцы кастрычніка гэтага года была аддадзена ў карыстанне святліца ў будынку на вул. Леніна 27. Атрымала яна каляровы тэлевізар і поўнае клубнае абсталяванне. Пра пластычныя дэкарацыі і ўпрыгожанні паклапацілася настаўніца пачатковай школы № 33 — Б. Крутуль, якая вядзе заняткі ў гуртку юных мастакоў.

Цяпер „Захэнта“ мае ўжо пяць святліц, два клубы, тры майстэрні для мадэльшчыкаў, дзве залы на музычныя заняткі і памяшканне для фотааматарскага гуртка.

### 10 ГАДОЎ СА СПОРТАМ

У кастрычніку гэтага года мінула 10 год існавання агніска ТККФ пры беластоцкай жыллёвай спулдзельні „Захэнта“. Мае яно нямала дасягненняў. Сістэматычна вядзе заняткі па плаванню. Асабліва жывую дзейнасць вядуць секцыі: культурыстыкі, фізкультуры для жанчын, настольнага тэніса, джуда і шахматная. Зімой арганізуюцца спаборніцтвы канькабежцаў. Пабудавана сцежку здароўя.

Сёлета агніска пабудавала корт для тэніса і дзве спартыўныя пляцоўкі.

Самыя актыўныя дзеячы агніска: Алёйзы Брысевіч, Галіна Шылэйка, Пелагея Ольkoўская, Ян Гурскі, Аляксандр Нікалаюк, Аліна Краўчук, Багуміла Герман, Юзэф Грушэўскі і Богдан Курза. **(ця)**

### У ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЕ...

...ПАРП налічвае 608 членаў і кандыдатаў, 40 ПОП, у тым ліку 24 вясковых (звыш двухсот членаў і кандыдатаў) і 16 у прадпрыемствах (звыш чатырыста членаў і кандыдатаў). Добра працуюць партыйныя арганізацыі ў трыкатажнай фабрыцы „Каро“, ГС, пачатковай школе — усе з Гарадка, ЦПН у Валілах, у вёсцы Залукі. У „Каро“ партарганізацыя налічвае 102 асобы. 16 верасня гэтага года тут быў паклікан КЗ (камітэт закладовы).

У гадах 1975—1977 прынята ў рады партыі 62 кандыдатаў і ўтварылася ПОП пры Спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Гарадку. Сярод іх 47 асоб гэта маладыя людзі і кандыдаты партыі. Многія здабываюць веды ў філіяле ВУМЛ.

Па ініцыятыве членаў партыі жыхары Гарадоцкай гміны выканалі нямала грамадскіх чынаў пры пабудове і рамонтах дарог і мастоў, добраўпарадкаванні вуліц і панадворкаў у вёсках, пры станках у прадукцыйных цахах. За 3 мільёны 200 тысяч злотых за два гады. **(ця)**

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ!

# УЛАДЗІМІР ГРЫКА

Куды лятчэй гаспадарыць, калі чалавек патрапіць шмат чаго зрабіць з рамесных работ. Уладзімір Грыка з Веяк, што ў Гарадоцкай гміне, з'яўляецца майстрам на ўсе рукі. Не так даўно пабудаваў сабе з пустакоў вялікі жывёлагадоўчы будынак. Сам яго мураваў, сам усё ў ім абсталяваў па сучаснаму. А раней зрабіў бэтанярку.

Пабудаваны ім свіран вельмі функцыйны. Выгадныя засекі на кожную збожжавую культуру. Каб іх поўна насыпаць, трэба 20 тон. Свіран „падпіўнічаны“. Пад ім дасканалы склад на бульбу. Хата таксама прыгожа выглядзіць, ашаляваная і памаляваная. Стадола і іншыя гаспадарчыя будынкі належна дастасаваныя да сельскагаспадарчых патрэб.

Уладзімір Грыка патрапіць таксама выканаць нямала работ звязаных з тэхнікай. У яго шмат сельскагаспадарчых машын. Калі што папсуецца, сам правядзе рамонт, выменіць паасобныя часткі ў машыне. Важна і тое, што мае да гэтага патрэбныя прылады і абсталяванне.

Усе сельскагаспадарчыя работы Уладзімір Грыка механізуе. Мае электрычную сілу, якая прыводзіць у рух і сячкарню, і крайзэгу, і электрадаілку, і дмухаву.

З'яўляецца адначасова ўзорным гаспадаром. Уладзімір Грыка па ўсіх правілах агратэхнікі апрацоўвае свае зямельныя ўгоддзі, мае добрыя ўраджаі і спецыялізуецца ў жывёлагадоўлі. Мае цяпер 8 дойных кароў, 8 штук маладняка на адкорме, 9 штук свіней, 60 курэй, яшчэ гадуе качкі і гусі. Мае таксама невялічкую пасеку.

Сваёй сельскагаспадарчай прадукцыяй Уладзімір Грыка належна ажыццяўляе дзяржаўную праграму. У бягучым годзе прадаў ён дзяржаве 3 тоны жыта і 10 тон бульбы. Малака ў найлепшыя месяцы прадае штодзённа да 120 літраў.

Жыве ён культурна і заможна. У хаце прыгожая мэбля, тэлевізар, у гаражы легкавая машына.

Усюды ў яго ўзорны парадак: на падворку і ва ўсіх будынках. Жыве ён згодна ў адной хаце з жончынымі бацькамі. Дачка яго Веся вучыцца ў 4 класе Міхалоўскага ліцэя, сын Юрка ў супраскім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі, а наймешая дачка Ёля ў 6 класе мясцовай пачатковай школы.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



## Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА IX

**Дзіцячы свет.** Апавяданне „Летапісцы“ толькі часткова адносіцца да тэмы — дзіцячы свет. Выступаюць у ім два раўнапраўныя героі — дзед Мірон і васьмігадовы Андрэй. У апавяданні раўнаважыцца драматычнае з камедыйным. Драматычнае звязана з постацяю дзеда, З яго старасцю, нядоляй, крыўдай. Смешнае належыць да сферы захавання і паводзін Андрэя. Трэба падкрэсліць, што постаць Андрэя, нягледзячы на пэўную гумарыстычную завостранасць, адзначаецца паслядоўным рэалізмам. Захаванне хлапчука, яго захапленне, здавалася б, другарадным прадметам — свісцёлкай, і яго абыякавасць, здавалася б, да найважнейшага — напісання ліста, змяшчаецца поўнасцю ў рамках рэалістычнага рысунка постаці. У апавяданні пісьменнік карыстае з двух розных спосабаў характарыстыкі постацей. У выпадку дзеда, Бядуля адклікаецца да яго перажыванняў, да яго спосабу адчування і думання. Дзякуючы гэтаму маем дачыненне з унутраным партрэтам старога чалавека. У выпадку Андрэя, пісьменнік абмяжоўвае сваю характарыстыку да знешняга апісання хлапчука і да яго паводзін. Такім чынам маем дачыненне з партрэтам знешнім. Аднак гэтая знешняя характарыстыка гаворыць многа аб унутраным свеце дзіцяці. Апавяданне „Летапісцы“ належыць да несумненных здабыткаў Бядулі. Пісьменнік удачна характарызуе і вясковыя абставіны, і адносіны паміж дзіцём і старым чалавекам, і сужыццё трагічнага і камедыйнага ў чалавечым побыце.

Ва ўсіх дагэтуль прадстаўленых дзіцячых апавяданнях выступалі постаці дзяцей у нейкай ступені шчаслівыя. Былі гэта постаці, у якіх не забрана дзяцінства, якія маглі цешыцца ўсімі правамі і атрыбутамі свайго ўзросту. Пэўным выключэннем быў герой „Вялікодных яек“, якога мары і здольнасці разбіліся аб скалу абыякавасці і незразумення сферы мастацтва ў асяроддзі старэйшых.

Аднак у творчасці Бядулі знаходзім апавяданні, героі якіх пазбаўлены дзяцінства. Страшэнныя матэрыяльныя ўмовы аднімаюць у малых герояў такія прыкметы дзяцінства як радасць, бесклапотнасць, цеплыня бацькоўскага кахання.

З такой трактоўкай дзіцячых постацей маем дачыненне ў навелцы „Пяць лыжак заціркі“. Ва ўяўленні дзяцей шчасце і радасць атаясамліваюцца з магчымасцю наесціся. З намнога глыбейшай характарыстыкай трагічнага ў дзіцячым жыцці маем дачыненне ў навеле „Малыя дрывасекі“. У гэтым кароценькім творы аб беларускай старой рэчаіснасці сказана больш, чым у многіх тоўстых кнігах. Апавяданне характарызуе крайні лаканізм. Аўтар да мінімум звёў колькасць слоў, максімальна рэдукаваў апісальніцтва; пакінуў найбольш неабходныя факты і інфармацыі.

Змест апавядання шырокавядомы. Малыя хлапчукі-дрывасекі замярзаюць у лесе ў часе снежнай завірухі. Твор сваімі размерамі і характарам рэляцыі амаль што набліжаецца да газетнага паведамлення. Яго тэкст налічвае ўсяго паўтары старонкі. Аднак гэты лаканізм невыпадковы. Пісьменнік свядома не хоча тапіць у многаслоўнасці істоты падзеі. Апавяданне „Малыя дрывасекі“ належыць да твораў з трагічнай падзеяй. У сэнсе драматызму стаіць яно ў адным шэрагу з навелай „Апчаслівіла“, у якой маці жабрачка выколвае ўласнаму нованароджанаму дзіцяці вочы, бо ў яе перакананні нармальнае, здаровае, неакалечанае дзіця не можа быць жабраком.



 

# ЧАЛАВЕК — СВЕТ — ПАЛІТЫКА

Дасягненні тэхнікі страшэнна зменшылі зямную кулю, фантастычна скарацілі адлегласці, раскрылі безліч дагэтуляшніх таямніц нашай планеты і яе бліжэйшага акружэння. Адначасова сёння кожны з нас ведае значна больш пра штодзённы побыт туземцаў на нейкім загубленым у акеанскай пустэчы палінезійскім астраўку, чым паўстагоддзя таму назад было вядома, напрыклад, французу пра жыццё жыхароў міжземнаморскай Сардыніі. Чалавецтва неімаверна ўзбагаціла веды пра самога сябе ўглыб і ўшыр і пераканалася, якія звычайныя і адначасова наколькі аграмадныя праблемы на свеце патрабуюць неадкладнага вырашэння: справядлівы лад, мір паміж народамі, зямля для беззямельных, праца для беспрацоўных, хлеб для галодных і прамень асветы для непісьменных — гэта ўсяго толькі асноўныя справы, якія хвалююць тыя ці іншыя кантыненты.

Такія роздумы навявала наведвальніку вельмі багатай выстаўкі грамадска-палітычнай кнігі, што стала цэнтральным мерапрыемствам сёлетняй, традыцыйнай ужо дэкады **„Чалавек — Свет — Палітыка“**, якая была адкрыта 24 лістапада г.г. у Сувалках.

Грамадска-палітычная кніга карыстаецца ў нас аграмаднай папулярнасцю. Кнігі з гэтай галіны адразу пасля выхаду з друку знікаюць з полак кнігарань, а ў бібліятэках „зачытваюцца“ да дзірак. На выстаўцы было паказана каля дзвюх тысяч загалоўкаў выданняў грамадска-палітычнай літаратуры, што выйшла з друкарань нашай краіны на працягу ўсяго толькі апошніх двух год. Сапраўднае кніжнае мора, але паспрабуйце набыць такія яго „кропелькі“, як кнігі В. Кавальскага, Р. Фрэлька, О. Лянге, З. Бранярка, О. Будрэвіча і дзесяткаў іншых аўтараў, з якіх яно складаецца!..

Сёлетняя, адзінаццатая ўжо па чарзе дэкада „Чалавек —Свет—Палітыка“ праходзіла ў знамянальную 60 гадавіну Вялікага Кастрычніка, і ад 20 па 30 лістапада былі праведзены ў гарадах, мястэчках і вёсках шматлікія мерапрыемствы: кніжныя кірмашы, чытальніцкія конкурсы, аўтарскія сустрэчы, цэнтральным матывам якіх былі падзеі, запачаткаваныя ў лістападзе 1917 года ў Петраградзе. Вялікая гадавіна дамінавала таксама і на сувальскай выстаўцы. Не выпадкова. Гэта ж тады пачалося вырашэнне агульначалавечых палітычна-сацыяльных праблемаў, якое сёння агарнула народы амаль усіх кантынентаў і якое мы называем сацыялістычнымі пераўтварэннямі. Таму іменна пачэснае месца на выстаўцы занялі творы класікаў марксізму-ленінізму і працы сучасных палітычных і дзяржаўных дзеячоў сацыялістычных краін. Вельмі багата прадстаўлены працы аб асноўных гістарычных і грамадскіх пераменах у нашых краінах і на свеце, марксісцкая канцэпцыя чалавека, крытыка філасофскіх і грамадска-палітычных ідэй абаронцаў капіталістычнага ладу, рэзультаты навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, а таксама мастацкая літаратура. Сярод іх знайшліся і шматлікія выданні, якія закранаюць розныя бакі сужыцця і супрацоўніцтва беларускага і польскага народаў, між іншым, праца Е. Ахманскага „Фелікс Дзяржынскі“, альбомы ў цыкле „СССР сёння і заўтра“, ваенныя аповесці Васіля Быкава, вершы беларускіх паэтаў, прысвечаныя Польшчы і г.д.

Спецыяльна быў выдзелены вялікі стэлаж з выданнямі, прысвечанымі гасцяваўшай выстаўку Сувальшчыне. Гэтае маладое, вельмі інтэнсіўна развіваючаеся ваяводства славіцца не толькі сваім цудоўным Мазурска-Аўгустоўскім паазер'ем, але і вялікімі надзеямі для ўсёй нашай прамысловасці — залежамі сувальскай жалезнай руды. Сённяшні дзень на Сувальшчыне значыцца паўстаючымі новымі прамысловымі аб'ектамі, гадаўлянымі фермамі, размахам жыллёвага будаўніцтва, а таксама багатым культурным жыццём. Так, напрыклад, у 162 клубах прэсы і кнігі, што дзейнічаюць на Сувальшчыне, развівае сваю дзейнасць каля 450 самадзейных мастацкіх калектываў.

**М. Гайдук**

ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



Тамара Паскробка ўжо другі год працуе **афіцыянткай у нараўскім рэстаране** „Над Нарвай“.

— Я люблю гэтую працу, — кажа яна. — Заўсёды з людзьмі і сярод людзей. Нараўскі ГС вельмі часта высылае мяне, каб абслугоўваць розныя ўрачыстасці, дзе збіраюцца важныя госці.

Сапраўды, пазнаёміліся мы з Тамарай у час дажынак у Нарве.

Фота **В. Рудчыка**

# ФАЛЬКЛОР

ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ой, заржы, заржы, мой сівы коню,*
*дарожкаю бягучы;*
*ой, чы не ўчуе моя дзеўчына,*
*з руты веночкі в'ючы.*
*Ой, як учула, зара пазнала,*
*што мой Ясенько едзе.*
*Ясенько едзе, мне дары везе —*
*веночка руцьвяного.*
*— Ах, мой Ясеньку, мое сэрдэнько,*
*сталася мне прыгода:*
*ой, віла, віла, пару веночкоў —*
*забрала быстра вода.*
*Ой, чом ні прыйшоў, чом ні прыехаў,*
*як я табе казала!*
*Чы ўдома ні быў, чы коня ні меў,*
*чы мама ні пускала?*

*— Ой, я ўдома быў, я й коніка меў,*
*мене мама пускала —*
*е ў мене сестра — да лет ні дайшла,*
*ана мне адрадзіла:*
*Ні едзь, браточку, ні едзь, родненькі,*
*да ўдавы на залёты,*
*бо ў удавы ўп'ешсе, з коня*
*сшыбнешсе —*
*удованька насмяецца.*
*Ой, едзь, браточку, ой, едзь,*
*родненькі,*
*да дзеўкі на залёты,*
*у дзеванькі ўп'ешсе, на коню*
*в'ешсе —*
*дзеванька тому рада.*

Ад Анны Трахімчук, 1891 года нараджэння, вёска Лука гм. Нараўка, запісаў 17 жніўня 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

# А ДЗЕ ЎЛАСНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА?

(Працяг са стар. 1)

тыя часы, расказваюць пра іх цэлыя легенды, у якой гэта цеснаце ды з якім зацікаўленнем глядзелі войшкаўцы выступленні сваіх артыстаў. Але ніхто і не думае, што вось чатыры гады пустуе ў доме культуры абшырная глядзельная зала і цалкам нядрэнная сцэна. У бягучым годзе ў Войшках адбывалася ўрачыстасць гмінных дажынак. У мастацкай частцы выступалі школьнікі з Юхноўца, эстрадны аркестр з Лявіцкіх, вясковыя гаспадыні з іншых навакольных вёсак, а войшкаўцы нават не мелі з чым і блізка да сцэны падыйсці. Не разгарнуў дагэтуль у Войшках свае культурна-асветнай дзейнасці і філіял гміннай бібліятэкі. З вялікага, бо ў 3280 тамоў, кнігазбору карыстае тут усяго 67 чытачоў і то ў асноўным дзеці з пачатковай школы. Што ж, няма ніякай працы з чытачамі. У верасні спыніў сваю дзейнасць і „Клуб селяніна“, што знаходзіўся ў вясковым доме культуры. Юхнавецкі ГС раптам загарэўся жаданнем мець у сваіх клубах працаўнікоў з высокай тэарэтычнай падрыхтоўкай да культурнай працы і пачаў высылаць клубовых на паўгадовыя кваліфікацыйныя курсы. У Войшках працавала ў клубе **Надзея Трафімюк** — маці двух малых дзяцей і гаспадыня на сваёй гаспадарцы. Ці ж магла яна кінуць збожжа, бульбу і агародніну ў полі, а дзяцей-малалетак у хаце ды паехаць на паўгода ў свет! Зразумела, зраклася з працы ў клубе. ГС жа як быццам бы толькі гэтага і чакаў: зараз жа зліквідаваў клуб, здзёр клубовую шыльду са сцяны дома культуры, вывез частку столікаў і крэслаў і цяпер сам сабою захапляецца, што справу так спрытна залатвіў!..

Усюды шляхі развіцця культурнага жыцця ў вёсцы не высланы ружамі, часцей за ўсё яны пасыпаны калючымі цернямі. Але ў Войшках на гэтыя балючыя церні ўсе шчодрыя: і самі войшкаўцы і іншыя. Дзейнічае ж тут і васьміасабовая падставовая партыйная арганізацыя на чале з сакратаром **Рыгорам Сяргеюкам**, ёсць вясковы актыў з солтысам **Іванам Трафімюком**, існуе кола вясковых гаспадыняў з яго старшынёю **Валянцінай Ляшэўскай**, кола ЛЗС са старшынёй **Іванам Сяргеюкам**, існуюць таксама гурткі маладзёжных і іншых грамадскіх арганізацый, урэшце рэшт ёсць і кіраўнік вясковага дома культуры **Сцяпан Ляшэўскі**. Усе яны разам — гэта армія людзей! Ці для іх справы грамадскага і культурнага жыцця ў сваім родным сяле цалкам абыякавыя? Ці ж не знойдзецца сярод іх хоць бы некалькі чалавек, якія пераможуць усе перашкоды і запаляць агеньчык культурна-асветнай дзейнасці?

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Вясковы дом культуры ў Войшках гміна Юхновец Дольны*

БЕЛАРУСІЯНА

## „СКРЫЖАВАННЕ“

„Вайна, рэвалюцыя і сённяшнія праблемы“ — пад такім загалоўкам быў змешчаны ў 47-ым нумары „Жыцця літэрацкага“ артыкул Андрэя Врублеўскага. Прысвечаны ён Тэатру на Таганцы ў Маскве. Амаль палову свайго артыкула аўтар прысвячае рэфлексійнаму апісанню спектакля Любімава „Скрыжаванне“, узнікшага на аснове двух апавяданняў Васіля Быкава — „Сотнікаў“ і „Круглянскі мост“.

Апісваючы пастаноўку спектакля, стараецца адначасова глянуць на творчасць пісьменніка. Дае характарыстыку паасобных герояў, якія з'яўляюцца ў Быкава прадстаўнікамі розных тыпаў людзей. Паказвае на праблемна-тэматычнае сходства „Круглянскага моста“ з Хемінгуэеўскім „Па кім звоніць звон“. Аўтар кранае ваенную тэму ў савецкай літаратуры. Бачыць вялікую розніцу ў падыходзе да гэтай тэмы ў творах ваеннага перыяду і першых пасляваенных гадоў, і ў творах нашага часу. Гэта вельмі выразна відаць у творах Васіля Быкава, у якіх няма трыумфальнага гучання фанфар, якія поўнасцю ачышчаны з пафасу. З'яўляюцца яны роздумам над дыялектыкай гераічнасці. Раскрывае яе аўтар артыкула на прыкладзе псіхалагічнага аналізу герояў Быкава з аповесці „Круглянскі мост“. Спектакль можа не так сціслы, наколькі проста аскетычны. Усё апошняе адбіваецца ў вачах гэтых герояў-партызан і нешчаслівцаў, якія не адкідалі сваіх чалавечых пачуццяў... „Скрыжаванне“, уласна кажучы, можна было б назваць сцэнічнай паэмай“, — піша на заканчэнне А. Врублеўскі.

**М. Шаховіч**

## Кажуць, што...

*Жыхары жылога корпуса нумар 4 пры вуліцы Манапалёвай у Беластоку, перажыўшы трэці падвальны патоп, які знішчыў значную частку прыдбаных на зіму запасаў, хочуць пабудаваць у падвалах каток. Гэтым спосабам думаюць вярнуць, нанесеныя вадой і нядбалым выкананнем, страты. А вясною, калі пусціць лёд — адкрыюць плавальны басейн. Будзе карысць!* (мш)

# ВЫПАДАК

Хто ведае такую жанчыну, якая б хваліла свайго мужа? Няма, скажаце, такіх? Ёсць! Гэта жонка майго сябра.

— У мяне не муж, а золата, — гаворыць яна за святочным сталом.

Пасля гэтага мой сябра хуценька выбягае за дзверы пакурыць. Дыміць, а жонка — хваліцца.

Аднойчы я не сцярпеў не балбатні:

— Ну, чым ён лепшы за іншых, твой Жэнька? Што ў ім такога асаблівага? Ну высокі, сімпатычны. А вусы ў яго... рудзенькія!

— Чаму рудзенькія? Русыя. Трэба табе, Саша, лепш разбірацца ў колерах. А мо ты дальтонік? — з'яхіднічала яна. І зноў пачала хваліць свайго Жэньку: — Муж у мяне ласкавы, клапатлівы, майстар на ўсе рукі. Згатуе снеданне — пальчыкі абліжаш, абед зробіць — у роце растае. Усё з-пад зямлі дастане! Абяцае дыван імпартны на падлогу...

— Няшчасная ты жанчына, Надзея Мікалаеўна, — глыбока ўздыхнуўшы, кажу я. — Муж твой — дэспат. Ты яго хваліш, а ён жа скнара! Думаеш, гатуе абеды, каб дагадзіць табе? Баіцца, каб ты гатуючы абед, катлету лішнюю не з'ела... І ў магазіны сам бегае, бо табе не даверае, капейку беражэ... Затое мая жонка карыстаецца поўнаю свабодай. Яна сама пасадзіла бульбу, сама выкапала яе. Дроў прывезла, папілавала іх бензапілой, пасекла. А да пліты мяне на гарматны стрэл не падпускае. Крыўдна, вядома, але я цярплю. На што не пойдзеш дзеля любімай жанчыны!

Нічога мне ў адказ не сказала Надзея Мікалаеўна. Увесь вечар сядзела моўчкі, не танцавала. Аб чымсьці засяроджана думала.

...А назаўтра раніцою мы сустрэліся з Жэнькам у „Вецярку".

— Ты чаго тут?

— Ды жонка штосьці ўзвінцілася. Ускочыла на кухню, накінулася на мяне, як той каршун: „Ты чаго, кажа, посудам бразгаеш? Хіба гэта мужчынская справа дранікі пячы? Людзі ўжо смяюцца. Ідзі хоць прайдзіся, як чалавек, па вуліцы..." Вось я і завітаў у „Вецярок".

Я сардэчна абняў сябра...

**Васіль Дружкоў**

...Студэнт Лайдакевіч зноў праваліўся на экзамене. Да якога ж часу нашы будаўнікі будуць класці няякасную падлогу!?

# НІЎКА

Выклікалі?

## ГЛУХІ

Кампазітар звярнуўся з пытаннем да крытыка.

— Чаму гэта так: ні адзін ваш брат-крытык наогул нічога не сказаў пра маю музыку, а вы асабліва так накінуліся на яе?

— Ведаеце, — адказаў крытык, — калі б я быў такі ж глухі, як і мой брат, заваряю вас, я таксама нічога не сказаў бы.

## ГУМАР 3

### ЯК САЛДАТ ГЕНЕРАЛА ПАЗНАЎ

Аднойчы ў царскай арміі меўбыць агляд войск. А там адзін салдат вельмі дрэнна ведаў службу. Вось яго і ўзводны павучае, як каго тытулаваць, як адрозніць якога начальніка.

— Генерала, — кажа, — па лампасах на штанах пазнаеш.

Вось пачаўся агляд... Прыехаў генерал, але крывы на адну нагу. Выстраіліся ўсе. Вось генерал прыйшоў, прывітаўся, а потым і напароўся на таго салдата, які дрэнна ведаў службу.

— Вось скажы мне, хто я такі?

А ён і кажа:

— Генерал, ваша правасхадзіцельства!

Вось ён зноў пытае:

— А па чым ты ведаеш, што я генерал?

А ўзводны стукае сябе па нагах, каб той дагадаўся, што па лампасах. А ён і кажа:

— Па нагах, ваша правасхадзіцельства!

— Як па нагах? — кажа генерал.

А салдат:

— У вас адна нага крывая.

## МІНІВЕРШЫ

### СТРАТА

Сумую, я, кудысьці знікла ты,
Пакінуўшы мне кашалёк пусты.

**Збігнеў Скупінскі**

### ПАРАДА

З напіткаў, выбачай,
Рабі ты выбар — чай.
Запамятай, ад чаю
Не дойдзеш да адчаю.

**Іван Курбека**

### АБМЕН (ІНФАРМАЦЫЯЙ)

Да абеду мы ў канторы
ўсё дачыста абгаворым:
хто што бачыў, дзе хто быў,
хто згубіў што, хто — купіў,
хто што еў і хто што піў,
хто з суседзяў посуд біў.

**Бухгалтар**

— Дайце мне дзеда, бабу, унучку, жучку і кошку — і я вам пакажу на што я здатна...

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе дзяўчат са Спічак змяшчаем песню*

### Na granicy dnia

**z repertuaru zespołu „Skaldowie"**
**słowa: Leszek A. Moczulski**
**muzyka: Andrzej Zieliński**

Co pozwala nam uwierzyć w świat,
co rozpali nagle jedną z gwiazd?
Jak poznać jeden wśród podobnych tylu dni
dzień, w którym zawsze będziesz ty,
ty, ty,
powiedz!

Co rozkręci barwy świata nam,
co zamieni ziemię w jedną z gwiazd?
Jak poznać jeden wśród podobnych tylu dni
dzień, jeden tylko biały dzień
w mroku dni?
Uniesie kroplę światła motyl dnia,
(uniesie kroplę światła motyl dnia...).
Z jutrzenką wzejdzie kolor twoich ust,
(zaświta z niebem kolor twoich ust...).
Na świecie tyle miejsca wokół mnie,
(na świecie tyle miejsca wokół mnie)
na twoje usta, dla twoich oczu,
ust,
oczu.
Co pozwala nam uwierzyć w świat,
co rozpali nagle jedną z gwiazd?
Jak poznać jeden wśród podobnych tylu dni
świt, szary świt, może to twoje oczy?
Skąd tyle barw, może to twoje usta?
Czy to już ty? Może ty, nie wiem, nie wiem!

Co, co pozwala nam uwierzyć nagle w świat,
gdy tyle barw wokół nas się rozpali?
Co, co pozwala nam uwierzyć nagle w świat...
Świt, szary świt, może to twoje oczy?
Skąd tyle barw, może to twoje usta?
Jak poznać ciebie tego dnia,
nie wiem, nie wiem, nie wiem.
Jak?

## ЗАДРЫПАТЭЛЬЕ

— Гэта непарадак! Навошта вы мне такія кароткія штаны пашылі?

— Супакойцеся, калі ласка. Я шыў па мерцы, але хто ж тут вінаваты, што за гэтыя два гады вы падраслі?

## ПЫТАННЕ І АДКАЗ

Міколка купляе папяросы. Прахожы сярдзіта заўважыў:

— І табе не сорамна? Вось я скажу тваяму настаўніку.

— Калі ласка, — адказаў малы, паблажліва пасміхаючыся. — Вы яго не здзівіце: якраз папяросы я для настаўніка і купляю.

## ЗАКАХАНЫ ЦІ АСТРАНОМ?

Сустрэліся юнак з дзяўчынай вечарам у парку.

— Ты маё сонейка, месячык мой, зорка, зязюля ўзвучная ў сузор'і!..

Усміхнулася дзяўчына і запытала:

— Гэта што, прызнанне ў каханні ці ўрок па астраноміі?

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Багаты прамысловец гаворыць маладому чалавеку, які залецаецца да яго дачкі:

— Я, напэўна, дзесяты раз адмаўляюся прыняць вас у сваю сям'ю ў якасці зяця, але мне падабаецца ваша ўпартасць, і я гатовы прыняць вас на работу прадстаўніком маёй фірмы.

*

— Мой ласьён для валасоў робіць проста цуд, — сказаў цырульнік кліенту. — Паглядзіце, якім я быў раней.

— І ён зняў парык.

*

Аб'ява на мэблевым магазіне:

„Калі ў вас не хапае грошай на набыццё антыкварнай мэблі, вы можаце купіць у нас сучасную мэблю ў крэдыт. Пакуль вы выплаціце за яе, яна ўжо стане антыкварнай".

# КУРЁЗЫ

## БІЗНЕСМЕН

Нязведаны шляхі бізнесу! На „голых" людзях пабудаваў свой бізнес нейкі грамадзянін ФРГ. Ён дапяў аж да французскага вострава Корсіка і ўзначаліў там лагер нудзістаў. Пасля заканчэння кожнага турысцкага сезона лоўкі бізнесмен незаконна вывозіў на радзіму буйныя сумы грошай.

Спрытнюгу, нарэшце, мусілі схапіць за руку. Суд горада Басція на востраве Корсіка рашыў не толькі канфіскаваць у „заступніка" „дзяцей прыроды" вывезеную ім валюту ў суме 6 мільёнаў франкаў, а яшчэ і аштрафаваць прайдзісвета на такую ж суму.

## ВОПЫТ ПРЫГАДЗІЎСЯ

Як вядома, экс-прэм'ер сайгонскага марыянетачнага кабінета Нгуен Као Кі, ратуючы сваю скуру, апынуўся ў Амерыцы.

Уратавацца то ўратаваўся, але ж нікому непатрэбнага „палітычнага дзеяча" ніхто дарэмна карміць не будзе, трэба самому клапаціцца пра хлеб надзённы. А як зарабляць той хлеб, калі рабіць нічога не ўмееш. Вось і ўспомніў тады экс-прэм'ер, што ён не дрэнна прадаваў інтарэсы в'етнамскага народа, чаму б і цяпер не прадаваць штокалечы іншае?

Гандлярскі вопыт прыгадзіўся. Пусціўшы ў справу нарабаваныя капіталы, Нгуен Као Кі ў прыгарадзе Лос-Анжэласа адкрыў магазін па продажу спіртнога і прадуктаў. Сам гаспадар магазіна сеў за касу, а „першая лэдзі" Сайгона — яго жонка — стала за прылавак...

## МІЖ НАМІ

Цікава, што пляткараць пра вярхі на небе?